# наша свабода

№38 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

7 ЛІПЕНЯ 2000 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ





# Найперш, незалежнасць

**«Катастрофа, якой стала антынародная дыктатура Лукашэнкі, перавышае наступствы Чарнобыльскай аварыі. Наступствы Чарнобыля ахапілі толькі пятую частку Беларусі, а палітыка існуючага рэжыму абдымае тэрыторыю ўсёй краіны», — гаворыць выдатны беларускі пісьменнік Васіль Быкаў у размове з карэспандэнтамі польскай *Gazety Wyborchej*.**

***— Як гэтак сталася, што мы сустракаемся ў Берліне?***

— У гэтым няма нічога незвычайнага. Сёння ўжо можна выехаць з Беларусі, нават калі гэта звязанае з меншымі ці большымі цяжкасцямі. У Германію я прыехаў на запрашэнне тутэйшага ПЭН-клуба, які фундуе мне стыпендыю на паўгода творчай працы.

***— Спадар Васіль, вы няправільна нас зразумелі. Нас дзівіць не тое, што Вам удалося выехаць з Беларусі, — але тое, што Вы мусіце шукаць за мяжой умовы для спакойнай творчай працы. Перад прыездам у Берлін Вы жылі ў Фінляндыі.***

— Так, я паўтара года прабыў у Хельсінках. Лічу, што месца кожнага чалавека — найперш ва ўласным доме. А тым болей, месца пісьменніка, які з роднай глебы чэрпае натхненне для творчасці. Аднак гэта ёсць ідэальны стан, а на практыцы свет уладкаваны гэтак, што спакойнага прытулку часта трэба шукаць далёка ад айчыны. Асабіста мяне гэта напаткала.

Абставіны, якія пануюць сёння на Беларусі, не спрыяюць пісьменніцкаму занятку ці наогул – мастацкай творчасці. Па доўгім часе, калі я выступаў супраць пануючага ў маёй краіне рэжыму, я адчуў, што мушу выехаць за мяжу. Не хацелася б, аднак, каб гэта прымалі за эміграцыю.

***— Гэта значыць, што ўмовы, уладкаваныя на Беларусі, не спрыяюць творчасці?***

— Відавочна, што эканамічныя абставіны жыцця там цяжкія, але галоўнае – не яны. Перад усім невыносным зрабіўся палітычны клімат. Я асабіста стаў аб'ектам нападаў афіцыйнай прапаганды, якая намагаецца прадставіць мяне як ворага народа. Дыктатар узяў кантроль над сферай культуры, а таксама над паліграфіяй ды іншымі тэхнічнымі сродкамі, што паставіла ў цяжкую сітуацыю ўсё пісьменніцкае жыццё краіны. Наша мова, наша культура, нашае духоўнае жыццё знішчаюцца. У гэтакіх абставінах я проста не мог жыць і пісаць. І так мушу лічыць за шчасце, што выехаў, бо мноства беларускіх творцаў не маюць шанца на такі выезд, як у мяне. ►



Фота IREX/ProMedia

*Працяг на стар.2*

# Грошы скончыліся, і няма дзе ўзяць

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**У Беларусі – фінансавы крызіс. У нашай дзяржавы больш няма грошай. Пра гэта пакуль маўчаць афіцыйныя крыніцы. Але амаль штодня прымаюцца новыя дакументы, якія маюць на мэце хоць нейкім чынам папоўніць схуднелы бюджэт.**

## Падайце на бюджэт!

За папаўненне бюджэту ў нас адказвае міністэрства фінансаў. Прэссакратар мінфіна Міхаіл Валькоўскі паведаміў нам, што статыстыкі па выкананні бюджэту за першыя паўгода яшчэ няма. Не паспелі падлічыць. Тым не менш, ужо вядомая іншая лічба. Яе абнародаваў намеснік міністра фінансаў Мікалай Румас перад дэпутатамі палаты прадстаўнікоў: за першыя пяць месяцаў беларускі бюджэт выкананы толькі на 30,5% (пра гэта мы ўжо паведамлялі). Такім чынам, калі дапусціць, што тэмпы папаўнення дзяржаўнай скарбніцы на працягу чэрвеня засталіся ранейшымі, то бюджэт мусіць быць выкананы недзе на 36-37% замест 50%. Аднак, ёсць падставы палічыць чэрвеньскія зборы нават меншымі, чым увясну: лета – традыцыйны час спаду бізнес-актыўнасці. А калі прадпрыемства прастойвае ці працуе толькі намінальна – не варта чакаць, што яно будзе плаціць вялікія падаткі ў бюджэт.

Беларуская дзяржава апынулася перад неабходнасцю выпрошваць у беларускага бізнесу грошы на сваё існаванне. Увайшоўшы ў незвычайную для яе ролю прасіцеля, улады вымушаныя ісці нават на розныя паслабленні для прадпрыемстваў. Вельмі цяжка прадставіць сабе Аляксандра Лукашэнку, які ходзіць з працягнутай рукой і просіць вярнуць даўгі дзяржаве. Але надарылася і такое.

Літаральна на мінулым тыдні А.Лукашэнка падпісаў фактычную амністыю ўсім прадпрыемствам і прыватным прадпрымальнікам, што маюць запазычанасць перад бюджэтам на 1 ліпеня гэтага года. Указ №364 «Аб неадкладных мерах па аздараўленні фінансавага стану юрыдычных асобаў і індывідуальных прадпрымальнікаў» вызваляе ад сплаты штодзённай пені за пратэрміноўку плацяжоў у бюджэт – пры ўмове, што тыя разлічацца з дзяржавай да заканчэння 2000 года і не будуць рабіць новых даўгоў.

У абывацельскім жыцці такое таксама сустракаецца: ад суседа-даўжніка ўжо не чакаюць нейкіх працэнтаў за калісьці пазычаныя грошы – каб толькі саму суму аддаў.

Паралельна ўрад шукае іншыя, больш звыклыя для яго шляхі для папаўнення бюджэту. Савет міністраў у канцы чэрвеня прыняў рашэнне, што калі ў прадпрыемства няма беларускіх грошай для разлікаў з дзяржавай, але ёсць пэўныя валютныя сродкі на сваім рахунку, то яно мусіць на працягу 5 дзён прадаць валюту і разлічыцца з бюджэтам.

Дарэчы, у няспынным пошуку сродкаў знаходзяцца і сталічныя ўлады. Мінгарвыканкам прыняў рашэнне, у адпаведнасці з якім з 1 ліпеня стаўкі арэнднай платы за нежылыя памяшканні ў цэнтры Мінска – у так званай першай эканамічнай зоне — падвышаюцца з 10 да 20 долараў ЗША за квадратны метр. ►

*Заканчэнне на стар.2*

## ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

■ **Літва зноў стала пастаўляць нам электраэнергію.** Як паведаміла агенцтва «РосБизнесконсалтинг», у ліпені ў Беларусь паступіць каля 300 мільёнаў кілават энергіі. Яе будзе набываць расійскае таварыства «Энергія», якое таксама будзе пастаўляць ядзернае паліва для літоўскай Ігналінскай АЭС. Летась імпарт літоўскай электраэнергіі ў Беларусь быў перапынены з-за таго, што Беларусь не разлічвалася за яе. Дагэтуль беларускі доўг Літве складае больш за 50 мільёнаў долараў.

■ **Учора нямецкі парламент прыняў закон пра кампенсацыі для ахвяраў нацызму.** Закон датычыць асобаў, якія былі ўгнаныя ў Германію на прымусовыя працы падчас Другой сусветнай вайны. У распараджэнне новастворанага фонду «Памяць, адказнасць і будучыня» мусяць паступіць 10 мільярдаў нямецкіх марак (амаль 5 мільярдаў долараў). Палову з гэтай сумы ўнясуць нямецкія прадпрыемствы, якія калісьці выкарыстоўвалі рабскую працу, а другую палову – федэральны бюджэт. Прадстаўнік фонду нямецкай эканомікі Р.Гібоўскі заклікаў прадпрыемствы ўнесці ў фонд недастаючыя 1,9 мільярда марак. Аднак ён заявіў, што збор сродкаў з'яўляецца выключна добраахвотнай акцыяй, і грошы немагчыма сабраць у прымусовым парадку.

■ **Кепская навіна для прэзідэнта Малдовы Пятра Лучынскага.** Парламент краіны адказаў яму ў пашырэнні паўнамоцтваў і адмяніў прэзідэнцкія выбары. 98 дэпутатаў з 104 прагаласавалі за папраўкі да Канстытуцыі, і цяпер пасля паўторнага абмеркавання закон уступіць у сілу і без згоды П.Лучынскага. Згодна з новымі папраўкамі, кіраўніком дзяржавы становіцца спікер парламента. Прэзідэнта будзе абіраць не ўвесь народ, а парламент. Дадатковыя паўнамоцтвы атрымае ўрад. Такім чынам, Малдова з прэзідэнцкай рэспублікі становіцца парламенцкай. У снежні гэтага года ў краіне адбудуцца першыя прэзідэнцкія выбары па новым заканадаўстве.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА






Курс наяўнага долара на «чорным рынку» **980**

## Еўрасаюз і ЗША даюць уладам Беларусі шанс

**Рыгор БУЯН**

**Еўрасаюз і Злучаныя Штаты Амерыкі на паседжанні пастаяннага камітэта АБСЕ выступілі з заявамі па сітуацыі на Беларусі. Іхні сэнс зводзіцца да аднаго: краіна пакуль яшчэ мае час і шанс вярнуцца ў дэмакратычную Еўропу.**

Еўрасаюз адзначае, што па ўсіх чатырох праблемах, пастаўленых перад уладамі, «усё яшчэ адсутнічае значны прагрэс». Прыгаворы Міхаілу Чыгіру, Міколу Статкевічу ды Валерыю Шчукіну «не дэманструюць цвёрды намер урада стварыць мінімальны давер на перадвыбарчы перыяд»; «папраўкі да Выбарчага кодэкса на цяперашняй стадыі дагэтуль не паляпшаюць у значнай меры празрыстасць выбарчага працэсу»; «неназіраецца ніякіх істотных паляпшэнняў адносна значымай ролі новага парламента»; Еўрасаюз спадзяецца «ўбачыць прагрэс у забеспячэнні доступу апазіцыі да СМІ». «Аднак яшчэ ёсць час унесці вышэйуказаныя змяненні. Гэта дазволіць правесці міжнароднае назіранне за парламенцкімі выбарамі. Такое назіранне не з'яўляецца ні самамэтай, ні актам прызнання дэмакратычнага характару выбараў. Яно стане важнай магчымасцю ацаніць, ці гатовыя як урад, так і апазіцыя Беларусі супрацоўнічаць, каб пераадолець палітычны раскол і стаць на шлях дэмакратыі. Рэальны крок у накірунку ўзмацнення дэмакратыі садзейнічаў бы прагрэсу ў вобласці больш цесных і ўзаемавыгадных адносінаў паміж Еўрасаюзам і Беларуссю», — гаворыцца ў заяве Еўрасаюза.

Місія ЗША ў АБСЕ прытрымліваецца больш жорсткай пазіцыі. «Сёння Беларусь выдзяляецца як анамалія ў Цэнтральнай Еўропе – краіна, якую не закранулі патокі рэформаў, якія вірляць вакол яе. Апошняе з'яўляецца не выпадковым, а лагічным вынікам дзеянняў цяперашняга ўрада. Пазіцыя прэзідэнцтва – выбранага ці не – не ставіць палітычнага лідэра над законам. Перамога на выбарах не дае права саджаць у турмы, пераследаваць ці прымушаць апанентаў замаўчаць. Ніякі пост ці званне не могуць зняць з правіцеля яго абавязацельстваў перад АБСЕ, якія ў роўнай ступені звязваюць усе нашыя краіны, і Беларусь – у той жа ступені, што і ўсіх нас», — сцвярджае місія Злучаных Штатаў. Амерыканскія дыпламаты заяўляюць, што «на цяперашні момант для ЗША было б немагчымым падтрымаць рашэнне пра накіраванне наглядальнікаў за парламенцкімі выбарамі ў Беларусі, таму што ўмовы «парламенцкай тройкі» не былі выкананы». Тым не менш, як і калегі з Еўрасаюза, амерыканская місія дае шанс беларускім уладам вярнуцца ў Еўропу, выканаўшы патрабаванні АБСЕ. ■

# Найперш, незалежнасць

*Заканчэнне. Пачатак на стар.1*

***— У СССР культура народаў, падначаленых імперыяй, знішчалася ў імя камуністычнай ідэалогіі. Сёння ў схільнасці да той ідэалогіі ніхто ўжо не прызнаецца. Дзеля чаго тады Аляксандр Лукашэнка так накіравана ваюе супраць усяго беларускага?***

— Сёння сітуацыя яшчэ больш горшая, чым была ў часы СССР. Тады бальшавікі як найменш стараліся ствараць карціну развіцця нацыянальных культураў. Афіцыйная мадэль культуры абвяшчала быць «нацыянальнай па форме і сацыялістычнай па змесце». Відавочна, існавала цэнзура, якая вынішчала ўсялякую незалежную думку, аднак захоўвала рэквізіты, знешнія атрыбуты нацыянальных культураў. Гэта давала творцам свабоду манеўра – на вузкім полі, вызначаным уладамі, нешта ўдавалася зрабіць.

***— Сёння няма нават тагога вузкага поля. Дыктатар праводзіць палітыку свядомага і бязлітаснага вынішчэння беларускай мовы. Следам нішчыцца нацыянальны тэатр, нацыянальны жывапіс ды іншыя сферы творчасці і духоўнага жыцця беларусаў.***

— Дзеля чаго Лукашэнка гэта робіць? Ясна – дзеля інтэграцыі Беларусі з Расійскай імперыяй. Як усім вядома, імперыя абавязвае да адзінай веры, адзінай мовы і адзінай улады.

***— Ці лічыце Вы, што прыхільнікі інтэграцыі здолеюць дасягнуць сваёй мэты?***

— Калі я бачу, з якой упартасцю яны стараюцца гэта выканаць, прыходжу да думкі, што магчыма так. І інтэграцыя з Расіяй, і вынішчэнне нацыянальнай культуры пагражае стаць цалкам рэальнай. ■

*Працяг у наступным нумары*

**ФОТАФАКТ**



*Фота ул.ШЛАПАКА*

● Сапраўды, старасць — не радасць. Асабліва ў нас

# Грошы скончыліся, і няма дзе ўзяць

*Заканчэнне. Пачатак на стар.1*

У другой і трэцяй эканамічных зонах арэнда цяпер каштуе 15 долараў за квадратны метр. Удвая падвысілася і мінімальная стаўка для тых, хто арандуе памяшканні ў падземных пераходах.

### Братэрскія даўгі

Цяжкае фінансавае становішча Беларусі ўскладняецца запазычанасцямі іншым краінам, у асноўным – Расіі. На 1 чэрвеня толькі за энерганосьбіты Беларусь вінаватая «братэрскай» краіне крыху менш за 400 мільёнаў долараў. Самая вялікая запазычанасць – за газ. Яна складае каля 225 мільёнаў долараў. Яшчэ 97 мільёнаў долараў мы вінаватыя за нафту. Чубайсаўскія «Единые энергосистемы» чакаюць сплаты запазычанасці за электраэнергію ў памеры амаль 50 мільёнаў долараў. Спажываем мы і расійскі вугаль – і вінаватыя за яго 2,9 мільёна долараў.

Расія не ўпускае магчымасці запатрабаваць ад Беларусі ўсе гэтыя грошы. Але максімум, што мы можам прапанаваць – гэта разлікі па бартэры, якія ўсё менш цікавяць расійскіх партнёраў. Затое вельмі смачным кавалкам расіянам падаецца беларускі канцэрн «Белтрансгаз», які забяспечвае перакачку «блакітнага паліва» з Расіі далей, на Захад. Пакуль што «Белтрансгаз» знаходзіцца ў спісе аб'ектаў, забароненых для прыватызацыі, аднак калі нашыя запазычанасці за газ дасягнуць пэўнай крытычнай лічбы, то пытанне аб акцыянаванні прадпрыемства зноў стане рубам.

У гэтым кантэксце можна паразважаць, наколькі розніцца падыходы расійскіх кіраўнікоў да пытання расійска-беларускай інтэграцыі. На змену незалежніцкаму рамантызму Барыса Ельцына прыйшоў драпежніцкі прагматызм Уладзіміра Пуціна. І, як ні дзіва, з кожным месяцам меншае энтузіязм А.Лукашэнкі ў справе зліцця дзвюх краінаў у адну дзяржаву. Зусім нядаўна ён заявіў, што «Расіі вельмі нявыгадна, каб Беларусь стала чарговай правінцыяй Расійскай Федэрацыі». Але ж відавочна: А.Лукашэнка тут больш клапоціцца пра свае інтарэсы, чым пра расійскія.

Расія на правах асноўнага крэдытора стала паказвае беларускаму кіраўніку ягонае сапраўднае месца, і гэта вельмі не падабаецца А.Лукашэнку. Ледзь не штодня яму нагадваюць пра даўгі Беларусі. Не вельмі прыемная сітуацыя.

Канфузам абярнулася і ягоная заява на СНДэшным саміце ў Маскве пра гатоўнасць Беларусі прыняць расійскі рубель. Літаральна праз тыдзень гэтая заява была фактычна дэзавуяваная расійскім кіраўніцтвам. Прычына – тая ж. Небяспечна даваць Беларусі гуляцца з чужой валютай, калі яна так «угробіла» сваю.

Пройдзе яшчэ зусім няшмат часу, і можа атрымацца – А.Лукашэнка грудзьмі стане на абарону незалежнасці Беларусі. Бо ў яго не будзе іншага выйсця.

### Што нас чакае

Калі Нацбанк Беларусі будзе праводзіць жорсткую крэдытна-фінансавую палітыку, то вельмі хутка ў краіне пачнуцца заробкавыя бунты – і так ужо запазычанасць па заробках складае каля 18 мільярдаў рублёў.

Ёсць іншае выйсце – выпусціць у абарот чарговы пачак беларускіх рублёў. Тады праблема заробкаў знікне, але зноў пачне раскручвацца махавік інфляцыі. У гэтым выпадку дарма прападуць усе намаганні Нацбанка па звязденні некалькіх валютных курсаў у адзін – рэальны, рынкавы. Цяпер на гэтую мэту кідаюцца ўсе рэсурсы цэнтральнага банка краіны. Спецыялісты выказваюць сумнеў, ці зможа вытрымаць сістэма, калі долар будзе лічыцца па тысячы рублёў, як цяпер на наяўным рынку. А калі курсераскочыць далёка за тысячу – ніякі Нацбанк яго не стрымае.

Але якое б рашэнне ні было прынятае – мы ніякім чынам не зможам на яго паўплываць. На сённяшні дзень адзінае, што нам пакінула ўлада, – гэта цярпець эксперыменты кіраўніцтва ў галіне эканомікі і фінансаў на ўласнай скуры. ■

## На Віцебшчыне плацяць менш

**Леанід СІМАНАЎ**

Праца сярэднестатыстычнага работніка ў Віцебскай вобласці ацэньваецца ніжэй за ўзровень сярэдняй зарплаты па Беларусі. У маі 2000 года гэтая розніца склала каля 5 долараў – 48,9 тысячы рублёў супраць 53,8 тысячы.

Ніжэй за ўсё на Віцебшчыне ацэньваецца праца калгаснага селяніна: за травень працаўнікам палёў і фермаў налічана па 29,3 тысячы рублёў. Фізічна выжываць калгасніку дазваляе толькі асабістая гаспадарка. У два з лішнім разы больш, чым у селяніна, аказаўся травеньскі заробак сярэднестатыстычнага служboўца мясцовых органаў дзяржаўнага кіравання – 63,9 тысячы рублёў. Утрая вышэй за сялянскую ацэньваецца праца работніка сферы крэдытавання і страхавання – 95,4 тысячы рублёў. Хаця і тут розніца ў сярэдняй зарплаце ў параўнанні з банкаўскай сферай па краіне складае каля 12 долараў. ■

**БелаПАН**

## За што паборы з абітурыентаў

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Днямі ў рэдакцыю НАШАЙ СВАБОДЫ звярнулася чытачка, цяпер абітурыентка аднаго з ВНУ, каб з дапамогай газеты высветліць адно пытанне: чаму пры афіцыйна бясплатнай медыцыне з яе бяруць грошы за медычную даведку.

Як вядома, для паступлення ва ўсе ВНУ ад абітурыентаў патрабуюць даведку пра стан здароўя па форме 086-У. Але ж, па словах чытачкі, у адной з паліклінікаў горада Мінска з яе запатрабавалі заплаціць за атрыманне даведкі амаль чатыры тысячы рублёў. Грошы яна заплаціла, але зацікавілася – куды ідуць гэтыя сродкі, на якой падставе іх збіраюць і як гэта ўкладваецца ў разуменне бясплатнай медыцыны ў нашай краіне?

З гэтымі пытаннямі мы звярнуліся ў міністэрства аховы здароўя, і там нас чакаў першы сюрпрыз. Начальнік аддзела кадраў Таццяна Якаўлеўна (прозвішча не паведаміла) шчыра здзівілася нашаму паведамленню і сказала, што «гэта магчымыя перагібы на месцах». Пра такую норму яна не чула ніколі і параіла нам патэлефанаваць напрамую ў паліклініку.

Мы выбралі наўгад паліклініку №6 і пачулі там зусім іншы адказ. Аказваецца, платныя даведкі выдаюцца ўжо даўно і на законнай падставе. І плаціць за даведку мусяць не ўсе абітурыенты, а толькі тыя, «хто паступае не адразу пасля школы». Былі названыя і кошты. 1.500 рублёў за простую даведку і амаль 4.000, калі робіцца дадатковыя аналізы (адны ВНУ патрабуюць поўную медычную інфармацыю пра будучых студэнтаў, а іншыя – толькі агульную).

Канчатковую і поўную інфармацыю мы знайшлі толькі ў начальніка ўпраўлення лечпрафдапамогі г.Мінска Наталлі Прадко. Яна паведаміла, што сапраўды ўжо некалькі гадоў існуе норма, якая абавязвае плаціць за медычную даведку абітурыентаў ва ўзросце 18 гадоў і болей. Гэтая норма, па словах Н.Прадко, устанаўліваецца мясцовымі ўладамі. Зробленыя такім чынам сродкі ідуць у бюджэты паліклінікаў. Чаму ў міністэрстве аховы здароўя нічога пра гэтую норму не ведаюць, начальнік упраўлення не патлумачыла. Магчыма, што справа тут – у звычайнай некампетэнтнасці.

Адзінае пытанне, на якое так ніхто і не даў адказу, – дзе тая мяжа, на якой заканчваецца бясплатная беларуская медыцына. Так што, абітурыенты-«пераросткі», рыхтуйце грошы. ■

## Германская дуэль беларускіх палітыкаў

**Рыгор БУЯН**

Адразу дзве беларускія дэлегацыі з 5 ліпеня знаходзяцца ў Германіі. Напярэдадні парламенцкіх выбараў, якія мусяць прайсці ўвосень, Бундэстаг ФРГ вырашыў азнаёміцца з пазіцыяй у адносінах да выбарчай кампаніі як Вярхоўнага Савета 13-га склікання – адзінага легітымнага заканадаўчага органа Беларусі, які прызнаецца ва ўсім свеце, так і афіцыйных уладаў. Апазіцыю прадстаўляюць спікер Сямён Шарэцкі, намеснік старшыні Вярхоўнага Савета Генадзь Цярэня, дэпутат Мечыслаў Грыб, які адначасова ўзначальвае Каардынацыйную раду сямі грамадскіх аб'яднанняў па назіранні за выбарамі, Станіслаў Шушкевіч, а таксама прадстаўнікі апазіцыйных партыяў: лідэр БНФ Вінцук Вячорка, старшыня Беларускай партыі працы Леанід Лемяшонак, намеснік старшыні КХП-БНФ Юрась Беленькі, намеснік старшыні АГП Аляксандр Дабравольскі.

Куды менш прадстаўнічую дэлегацыю накіравалі ў Берлін афіцыйныя ўлады. Пераконваць нямецкіх парламентарыяў у правільнасці афіцыйнага курсу адпраўлены старшыня камісіі па дзяржаўным будаўніцтве, мясцовым самакіраванні і рэгламенце Палаты прадстаўнікоў Анатоль Красуцкі, прэзідэнцкі памочнік Сяргей Посахаў і рэдактар газеты адміністрацыі прэзідэнта «Советская Белоруссия» Павел Якубовіч.

У ходзе візіту, арганізаванага Бундэстагам, абедзве дэлегацыі маркуюць сустрэцца з дэпутатамі, парламенцкай групай па ўзаемадзеянні з Беларуссю, з прадстаўнікамі розных палітычных партыяў ды дзелавымі коламі. Зразумела, што гаворка будзе весціся вакол парламенцкіх выбараў, якія запланаваныя на восень. Ад таго, у чыю карысць закончыцца славесная дуэль беларускіх палітыкаў, залежаць адносіны Бундэстага і Германіі ў цэлым да сітуацыі на Беларусі. Завершыцца візіт 8 ліпеня. ■

# Прынцып напалову – беспрынцыпнасць



**Славамір АДАМОВІЧ**
*Аўтар верша «Убей президента», за напісанне якога правёў за кратамі 10 з паловай месяцаў. Першы беларускі палітвязень.*



**Тамара ВІННІКАВА**
*Экс-старшыня Нацбанка РБ, правяла за кратамі ў ізалятары больш за паўгода, дзе, па яе словах, ледзь не памерла. Пасля знаходзілася пад хатнім арыштам ды збегла ў «адну з еўрапейскіх краінаў».*



**Уладзімір КУДЗІНАЎ**
*Дэпутат дзейнічаючага Вярхоўнага Савета. Рэзка выступаў за імпічмент Лукашэнку. Быў арыштаваны па сфабрыкаванай, на думку праваабаронцаў, справе за спробу даць хабар. Атрымаў сем гадоў пазбаўлення волі.*

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

Пасля таго, як суддзя Мінскага гарадскога суда Ігар Крот скончыў зачытванне прысуду Валерыю Шчукіну і Мікалаю Статкевічу, з'явілася незразумелае адчуванне таго, што толькі што здарылася нешта істотнае. І ўжо не здаваўся дзіўным і незразумелым чарговы палітычна абумоўлены прысуд апазіцыянерам – паспелі прывыкнуць. Але нешта было не так. І толькі на наступную раніцу «дайшло» – скончыўся бесперапынны шэраг гучных судовых справаў, што цягнуліся з 1996 года. Яны выматвалі шмат нерваў, адбіралі шмат часу і часам вымушалі газету ператварацца ў своеасаблівы судовы веснік.

Успомніце. Год 1996-ы, красавік, затрыманне і пасадка ў следчы ізалятар КДБ паэта Славаміра Адамовіча за верш «Убей президента» і ягонае вызваленне ў лютым 1997. Але ўжо 14 студзеня 1997-га арышт Тамары Віннікавай, а 4 лютага — дэпутата Уладзіміра Кудзінава. Даволі хутка над Кудзінавым прайшоў суд, і ён быў адпраўлены ў калонію ўзмоцненага рэжыму. Але ўсё здарылася не хутчэй, чым адбыліся чарговыя арышты, на гэты раз журналістаў здымачнай групы ОРТ на чале з Паўлам Шараметам. Пазней, 25 жніўня, — актывістаў Маладога Фронту Вадзіма Лабковіча і ўласна мяне. Вадзіма Кабанчука арыштавалі 12 кастрычніка. Суды над маладафронтаўцамі прайшлі ў лютым-сакавіку 1998, а Шарамет выйшаў праз два месяцы. Прамежак часу, зноў-такі – нявелікі, але... Лістапад 1997-га, затрыманне Васіля Старавойтава і Васіля Лявонава. Люты 1998-га, арышт дэпутата Андрэя Клімава і змяшчэнне яго ў следчы ізалятар «Валадарка».

Вы яшчэ не стаміліся? Тады варта ўспомніць год 1999. 31 сакавіка, затрыманне кандыдата на пасаду прэзідэнта Беларусі Міхаіла Чыгіра і знікненне ў пачатку траўня Юрыя Захаранкі, а 16 верасня – Віктара Ганчара. Затрыманне пасля «Маршу Свабоды» Міколы Статкевіча і Валерыя Шчукіна. Нічога сабе ланцужок атрымаўся, ці не праўда? Пры гэтым трэба ўлічыць, што дастаткова цяжка прасачыць менавіта судовую храналогію, бо суд, прыкладам, над Васілём Старавойтавым расцягнуўся больш чым на паўгода. Ды і над Чыгірам ды Клімавым — не менш таго. Так што атрымоўваецца, што ў нас увесь час разглядалі чыюсьці гучную, аб'яўленую палітычнай справу, і не паспяваў разгляд яе скончыцца – затрымоўвалі наступную ахвяру. А яшчэ ўлічыце адміністратыўны пераслед.

Вось нават не самая падрабязная статыстыка. Увесну 1999 года падчас кампаніі «альтэрнатыўныя прэзідэнцкія выбары-99» рознага роду палітычным рэпрэсіям (арышты, штрафы, павесткі з пракуратуры, выклікі ў КДБ і г.д.) падвергліся каля 3.500 чалавек па ўсёй краіне. Пасля першага «Маршу Свабоды» больш за сотню чалавек былі затрыманыя, а каля пяцідзесяці чалавек падвергліся здзекам у амапаўскіх аўтобусах, а пасля атрымалі адміністрацыйныя судзімасці.

Усяго ж за 1999 год так ці інакш пацярпелі за сваю грамадскую пазіцыю ад чатырох да пяці тысяч чалавек. Увесну 2000 года найбольшую колькасць затрыманых дала акцыя «Дзень Волі» – больш за пяцьсот чалавек. Уся вясна – больш за тысячу. Рэкардсменам у гэтым незайздросным спаборніцтве можна зараз лічыць ужо не В.Шчукіна, а барысаўчаніна Алеся Абрамовіча. За апошні год ён адседзеў ужо больш за сто сутак у розных СІЗО. А яшчэ за апошнія паўгода было вынесена 10 папярэджанняў незалежным СМІ, чатыры з якіх, праўда, пасля былі адмененыя. Вось такая статыстыка ішла.

І тут раптам упершыню за чатыры гады такі разрыў вышэйзгаданага ланцужка. Канешне, разрыў гэты нельга лічыць сапраўдным, а больш камуфляваным з прычыны знаходжання за кратамі тых жа дэпутатаў Вярхоўнага Савета Клімава і Кудзінава, ды і пра дзейнічаючыя ўмоўныя прысуды нельга забывацца, але паразважаць, чаму ўлада ўсё ж прыпыніла крымінальны пераслед сваіх апанентаў, які стаў ужо звыклым .

І тут першае, што прыходзіць у галаву, – гэта, канешне, апошняя спроба беларускіх уладаў хаця б нейкім чынам легітымізаваць сваю палату. І прыпыненне (а я ўпэўнены, што гэта менавіта не спыненне, а прыпыненне) рэпрэсіяў – сродак падлізвання да «еўратройкі», місіі АБСЕ і ўсёй Еўропы цалкам. І хоць тыя патрабуюць таксама неадкладнага вызвалення **усіх** палітвязняў і неадкладнага спынення **усіх** крымінальных справаў у дачыненні да апазіцыянераў, усім зразумела, што Лукашэнка на гэта не пойдзе ніколі. Гэта ведае Еўропа, а Лукашэнка разумее тое, што Еўропа гэта ведае, і робіць назад толькі паўкрокі, змушаючы тых задаволіцца і гэтым. Відавочна, што падобная сітуацыя і з патрабаваннем АБСЕ аб доступе апазіцыянераў да дзяржаўных СМІ, і ў першую чаргу электронных. Улады пускаюць таго ж Статкевіча «ў тэлевізар» на дзве хвіліны раз на два тыдні і імітуюць гэтым доступ да СМІ. А на большае яны проста не пойдуць! Ва ўсялякім выпадку, зараз. І тут галоўнае не паддацца на гэтыя паўсаступкі ўлады і не пайсці на кампраміс, бо тады гэтая **палавінчатасць прынцыпаў** стане для ўлады ўкладам жыцця, і надзеі на тое, што калі-небудзь яна саступіць цалкам, больш зусім не з'явіцца. І пра гэта трэба памятаць як апазіцыі, так і еўрапейскім «міратворцам». А што да «судовага ланцужка», то хутчэй за ўсё пасля выбараў у палату ён узновіцца і будзе працягваць збіраць свае сумныя звёны. А лепш бы я, канешне, памыляўся... ■





**Вадзім ЛАБКОВІЧ, Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**
*Правялі за кратамі першы шэсць, другі — васемнаццаць месяцаў за напісанне на сценах адміністратыўных будынкаў патрыятычных ды антыпрэзідэнцкіх лозунгаў.*



**Васіль СТАРАВОЙТАЎ**
*Двойчы герой ордэна працы, асуджаны на два з паловай гады пазбаўлення волі. З'яўляўся кіраўніком перадавой гаспадаркі – АТ «Рассвет».*



**Юры ЗАХАРАНКА**
*Былы міністр унутраных справаў Беларусі, не згадзіўся парушаць законы і Канстытуцыю ў інтарэсах улады, за што быў адпраўлены ў адстаўку. Арганізаваў Саюз афіцэраў. 7 траўня 1999 года раптоўна знік. Дагэтуль месца яго знаходжання невядомае.*



**Андрэй КЛІМАЎ**
*Дэпутат Вярхоўнага Савета, востра апазіцыйна настроены да Лукашэнкі. Асуджаны на восем гадоў пазбаўлення волі за «махінацыі ў сваёй будаўнічай фірме». У свой час выказаў у сваім выступе ў парламенце думку, што «і пажарнік у патрэбным выпадку можа арыштаваць прэзідэнта».*



**Павел ШАРАМЕТ**
*Карэспандэнт здымачнай групы ОРТ на Беларусі. Часта рыхтаваў для праграмы «Час» крытычныя матэрыялы аб дзейнасці беларускага прэзідэнта. Правёў за кратамі два з паловай месяцы за быццам нелегальны пераход мяжы з Літвой падчас выканання працоўнага задання.*



**Міхаіл ЧЫГІР**
*Экс-прэм'ер-міністр Беларусі. Сышоў у адстаўку напярэдадні скандальнага рэферэндуму 1996 года з-за нязгоды з курсам кіравання прэзідэнта Лукашэнкі. Балатаваўся на пасаду прэзідэнта на альтэрнатыўных выбарах, але незадоўга да іх правядзення быў кінуты за краты, дзе правёў сем месяцаў. Атрымаў прысуд у пяць гадоў пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання.*



**Віктар ГАНЧАР**
*Былы старшыня Цэнтрвыбаркама, незаконна зняты з гэтай пасады Лукашэнкам, віцэ-спікер Вярхоўнага Савета, арганізатар альтэрнатыўных прэзідэнцкіх выбараў і акцыі «Правады прэзідэнта». Быў скрадзены невядомымі разам з прадпрымальнікам Анатолем Красоўскім 16 верасня 1999 года. Дагэтуль ці жывы ён і месца яго знаходжання застаюцца невядомымі.*



**Валеры ШЧУКІН**
*Самы каларытны дэпутат Вярхоўнага Савета, вядомы тым, што з'яўляецца рэкардсменам сярод усіх беларускіх палітвязняў па колькасці адміністратыўных арыштаў. Атрымаў адзін год пазбаўлення волі з адтэрміноўкай за актыўны ўдзел у апазіцыйным «Маршы Свабоды» 17 кастрычніка 1999 года.*



**Мікола СТАТКЕВІЧ**
*Старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі. Асуджаны на два гады з адтэрміноўкай за арганізацыю і правядзенне апазіцыйных акцыяў «Дзень незалежнасці» і «Марш Свабоды». Адзін з найбольш харызматычных лідэраў беларускай апазіцыі.*

ЭКАНОМІКА

## С.Багданкевіч прагназуе з ліпеня рост інфляцыі

Юрась ХМЯЛЬНІЦКІ

Былы старшыня Нацыянальнага банка Беларусі Станіслаў Багданкевіч у інтэрв'ю НАШАЙ СВАБОДЗЕ спрагназаваў рост інфляцыі і цэнаў на 6-10% у месяц, пачынаючы з ліпеня. Падставай для такой высновы паслужыў рост цэнаў на прамысловую прадукцыю на 10 пунктаў хутчэйшы, чым рост цэнаў на спажывецкую прадукцыю. Апрача таго, істотна падарвала фінансавыя магчымасці рэспублікі пасяўная кампанія. Па словах С.Багданкевіча, калі за чатыры месяцы з пачатку года эмісія склала 27 мільёнаў долараў, то за адзін толькі травень – 30 мільёнаў долараў. Гэтыя грошы ў асноўным пайшлі на пасяўную кампанію.

Станіслаў Багданкевіч лічыць верагодным да канца трэцяга квартала дасягнуць адзінага курсу валюты. Аднак утрымаць яго ў рамках адной тысячы рублёў за долар «будзе немагчыма». Станіслаў Багданкевіч заявіў, што беларускі рубель і надалей будзе абясцэньвацца. ■

КАНТАКТЫ

## Прафсаюзы пратэстуюць

Рыгор БУЯН

11 ліпеня ў Мінск з двухдзённым візітам прыбудзе дэлегацыя Міжнароднай канфедэрацыі свабодных прафсаюзаў (МКСП) на чале з яе старшынёй Білам Джорданам. Адразу па прыездзе ў беларускую сталіцу Біл Джордан уручыць кіраўніцтву рэспублікі ліст пратэсту супраць парушэння правоў прафсаюзаў.

Месяц таму тры галіновыя прафсаюзы — аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання, аграпрамысловага комплексу і радыёэлектроннай прамысловасці, якія ўваходзяць у Федэрацыю прафсаюзаў, а таксама Беларускі кангрэс дэмакратычных прафсаюзаў — накіравалі ў Міжнародную арганізацыю працы (МАП) скаргу. У ёй сцвярджаецца, што ў Беларусі парушаюцца прафсаюзныя правы і свабоды, звязаныя са стварэннем арганізацыяў працоўных па іх свабодным выбары; улады ўмешваюцца ў статутную дзейнасць прафсаюзаў, назіраецца антыпрафсаюзная дыскрымінацыя. Візіт дэлегацыі МКСП задуманы як адказ беларускім прафсаюзам на скаргу і мусіць засведчыць пра пачатак міжнароднай кампаніі ў падтрымку прафсаюзнага руху на Беларусі.

Прадстаўнікі МКСП збіраюцца паразмаўляць пра парушэнне правоў прафсаюзаў з кіраўніком прэзідэнцкай адміністрацыі Міхаілам Мясніковічам і прэм'ер-міністрам Уладзімірам Ярмошыным. У планах еўрапейскіх прафсаюзных дзеячаў значыцца і сустрэча з кіраўніцтвам Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай. Па выніках візіту, які закончыцца 12 ліпеня, дэлегацыя МКСП падрыхтуе агляд сітуацыі ў Беларусі і дасць рэкамендацыі адносна далейшых дзеянняў. ■

